*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 9(343) | 11 САКАВІКА 1998 г.

## Віншуем!

***7 сакавіка споўнілася 60 гадоў Міхасю Чарняўскаму, гісторыку, археолагу, мастацтвазнаўцу і шчыраму беларусу. Сябры Мастоўскай і Лідскай арганізацый БСДП "Народная Грамада" шчыра віншуюць калегу па партыі з юбілеем і жадаюць у рэшце рэшт "адкапаць" незалежную Беларусь.***

***Рэдакцыя "Нашага слова" далучаецца да віншаванняў і спадзяецца бачыць імя Міхася Чарняўскага на сваіх старонках.***

## Справаздачная канферэнцыя ТБШ

2 сакавіка ў Лідзе прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Лідскай рэгіянальнай арганізацыі Таварыства беларускай школы імя Браніслава Тарашкевіча. Канферэнцыя заслухала справаздачу старшыні і разгледзела стан беларускага школьніцтва ў горадзе і раёне. На канферэнцыі прысутнічалі дэлегаты ад 16 першасных суполак ТБМ.

Канферэнцыя абрала новую раду арганізацыі. Старшынёй застаўся дырэктар СШ № 15 г. Ліды Аляксандр Сокал. У склад рады ўвайшлі прадстаўнікі гарана і райана, дырактары і настаўнікі школаў, супрацоўнікі дзіцячых устаноў.

Канферэнцыя канстатавала антыбеларускую дзейнасць дырактароў Лідскіх школаў № 1, 3, 10 і накіравала ім папераджальныя лісты.

Канферэнцыя паставіла пытанне пра статус Лідскай гімназіі і вырашыла патрабаваць ад гарадскіх уладаў, або выканаць уласную пастанову і вярнуць гімназію да беларускай сістэмы адукацыі, або пазбавіць яе статусу гімназіі і вярнуць у ранг школы № 7.

## Рэклама па-беларуску

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы для беларускага бізнесу, ён усёроўна пакрысе набірае моцы. Аб гэтым сведчаць шматлікія рэкламныя аркушы, якія жыхары Менска, кожны дзень знайходзяць у сваіх паштовых скрынках.Аднак усе гэтыя аркушы зроблены на расейскай мове, часам з памылкамі, часам не вельмі доўгі тэкст пабудаваны на правілах заходнепалескай ці бабруйскай стылістыкі. І вось упершыню я ўбачыў рэкламу па-беларуску, якая запрашала да стаматолага. Прыйшоў па адрасу і новая прыемная дэталь - цудоўная беларуская шыльда. Пасля таго, як сустрэўся з кіраўніком фірмы, дарэчы, гэта старшыня Ленінскай рады ТБМ г. Менска — Мікола Кійка, пераканаўся, што беларуская мова не адпалохвае наведвальнікаў прыватнага стаматалагічнага кабінета.

Таму, я прапаную на старонках "Нашага слова" друкаваць розныя ўзоры беларускамоўнай рэкламы як прыватных, так і дзяржаўных прадпрыемстваў, якія могуць дасылаць у рэдакцыю чытачы "Нашага слова". Хай гэта бясплатна надрукаваная рэклама будзе нашым падарункам тым прадстаўнікам сярэдняга класа краіны, хто не цураецца роднага беларускага слова.

***Першы намеснік старшыні Рэспубліканскай рады ТБМ Алег Трусаў.***

## Стаматалагічныя паслугі

(праспект Ракасоўскага, 166А)
тэл. 214-87-39




## Цудоўнае падарожжа

Цудоўнае падарожжа здзейснілі сябры ТБМ Ленінскага раёна г. Менска ў Полацк 31 студзеня 1998 года. У Полацку наведалі Сафійскі Сабор, слухалі там арганны канцэрт. Азнаёміліся са Спаса - Ефрасіннеўскай царквой і кляштарам. Пакланіліся мошчам Ефрасінні Полацкай. У музеі-бібліятэцы імя С.Полацкага ўбачылі рукапісы XI-XVIII стагоддзяў, першадрукарскія станкі, партрэты вядомых пісьменнікаў і паэтаў.

Да помніка Ф.Скарыны ўсклалі кветкі. Знаёмства з Полацкам завяршылася сустрэчай з пісьменнікамі і паэтамі. Прадстаўнікі літаратурных аб'яднанняў "Надзвіннне" і "Крыніца" расказалі пра сваю літаратурную дзейнасць, прачыталі свае вершы. Мы ім у падарунак прывезлі кнігі Н.Гілевіча "Любоў прасветлая" і Найдзюка "Беларусь учора і сёння", газеты "Наша Слова". Пажадалі ўсім выпісаць гэту цікавую газету і больш пра яе расказваць насельніцтву.

Усе сябры ТБМ і іншыя прадстаўнікі дэмакратычных партый і рухаў, аб'яднаныя ідэяй Хартыі-97, засталіся задаволенымі гэтым падарожжам. Мы сталі ведаць больш сваю спадчыну, сваіх знакамітых продкаў. У сустрэчы пряняў удзел знакаміты беларускі паэт і перакладчык, кандыдат філалагічных навук Лявон Баршчэўскі.

***Т. Грузнова, г. Менск***

## БНФ ідзе ў народ

28 лютага ў Лідзе адбылася сустрэча кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" з жыхарамі горада. У сустрэчы ўзялі ўдзел адказны сакратар Управы БНФ Вячаслаў Сіўчык, сябры грамадскага ўрада БНФ Іван Саверчанка і Анатоль Станкевіч, адзін з кіраўнікоў "Маладога Фронту" Аляксей Янукевіч, старшыня Гарадзенскай абласной рады БНФ "Адраджэньне" Мікола Баўсюк.

29 лютага аналагічная сустрэча адбылася ў Воранаве.

# Падпіска

### Паважаная рэдакцыя "Нашага слова"

*Дапамажыце мне зразумець такое пытанне. Я выпісаў на першае паўгоддзе "Наша слова", а таксама і мае сыны. Вось прыйшоў 1998 год. Прайшло два тыдні, а газеты няма. Я пайшоў у аддзел падпіскі давесдацца. Мне адказалі, што газета "Наша слова" не выходзіць і вярнулі грошы мне і маім сынам і, як я ведаю, маім знаёмым. Потым я ўбачыў "Наша слова" ў продажы. У чым тут справа?*

*Для доказу высылаю вам падпісныя квіткі.*

***В. Машко, 222410 г. Вілейка- 4, Порса, п/с 17***

### Шаноўны спадар В. Машко.

Пазбавіла Вас , Вашых сыноў і знаёмых "Нашага слова" вашая Вілейская пошта.. У N2 нашай газеты за 1998 год мы надрукавалі звесткі пра колькасць падпісчыкаў па ўсіх раёнах Беларусі. Вілейкі ў гэтым спісе няма. Значыць, заказ з Вілейкі на "Наша слова" не пастунаў. Аналагічная сітуацыя была ў Баранавічах. Але там падпісчыкі мелі інфармацыю, што газета выходзіць, ад грошай адмовіліся і запатрабавалі газету. Пасля гэтага ім тэрмінова даслалі ўсе нумары. Мы рэкамендуем усім вілейцам падпісвацца на другі квартал і рашуча запатрабаваць ад супрацоўнікаў аддзела падпіскі вашай пошты дабрасумленна выконваць свае абавязкі.

***Станіслаў Суднік***

## Станіслаў Шушкевіч на "Наша слова" ўжо падпісаўся

КВИТАНЦИЯ 23 02 98

КУДА
КОМУ
ОПЕРАТОР

8820 • • 36 3

...эрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

...АНЕМЕНТ на газету / часопіс 63865 індэкс выдання

...аша слова (назва выдання) Колькасць камплектаў 1

На 1998 год па месяцах:

| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | X | X | X | X | X | X | X | X | X |

220035 (паштовы індэкс) г.Мінск-35 (адрас)
Шушкевічу С.С. п/я 181 (прозвішча, ініцыялы)

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 36000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | X | X | X | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)
Каму (прозвішча, ініцыялы)



№ 9(343) 11 САКАВІКА 1998 г. наша СЛОВА

# праўда гэтай зямлі

Сёння краіна наша спынілася на раздарожжы ў нерашучасці і нявызначанасці, нібы пакутліва шукаючы адказ на гамлетаўскае пытанне: "Быць ці не быць?". Гэтая незвычайнасць у пэўнай ступені абумоўлена нашымі беларускімі комплексамі, маніямі і фобіямі, нашыя грамадзяне ўсё ніяк не могуць разабрацца ў сабе, не ведаючы самі, чаго яны хочуць і да чаго імкнуцца, адчуваючы пры гэтым не толькі матэрыяльную неабароненасць, але і псіхалагічны дыскамфорт. Думаецца, што ў немалой ступені такі стан душы насельніцтва выкліканы таксама і моўным пытаннем, дакладней, яго нявырашанасцю. Магчыма, калі б працэс чарговай "беларусізацыі" не быў на гэты раз зноў гвалтоўна спынены, то сёння мы пачуваліся б ужо зусім іначай: пазбавіліся б пачуцця раздвоенасці і ўбачылі б перад сабой нарэшце мэту і перспектыву.

А ці не перабольшваем мы значэнне моўнай праблемы ў жыцці людзей (у чым нас звычайна папракаюць)? Маўляў, калі не задаволеныя элементарныя патрэбы чалавека, то якая ўжо тут розніца, на якой мове гаварыць? Маўляў, спачатку трэба накарміць народ. Спачатку хлеб, а тады ўжо і песня. Цвёрдае ўяўленне пра такую іерархію каштоўнасцяў і адпаведную паслядоўнасць у стварэнні людскога жыцця з'яўляецца цалкам натуральным для выхаванцаў савецкай сістэмы адукацыі, якія добра засвоілі навуку суадносіны базісу і надбудовы. Падобныя размовы вядуцца ўжо шмат гадоў, час ідзе, а народ як быў, так і застаецца ненакормлены. Можна не сумнявацца, што і далей так будзе, калі не горай. Дый як можа быць іначай? Цяжка ўявіць сабе краіну, якая квітнела б матэрыяльна і адначасна страчвала самастойнасць, як незалежная дзяржава, гінула б, як самабытны народ, са сваёй уласнай мовай і культурай. Тут ёсць тая ж узаемасувязь, што і паміж псіхічным ды фізічным здароўем чалавека, бо ўжо ўстаноўлена, што многія захворванні чалавечага арганізму знаходзяцца ў непасрэднай залежнасці ад стану ягонай душы. Сцверджанне, якое не так даўно ўспрымалася, як ледзь не аксіёма: " У здаровым целе — здаровы дух", - абарочваецца супрацьлегласцю. Дух ствapae цела, а не наадварот, таму, які дух, такім мусіць быць і цела.

Адсюль вынікае, што значэнне роднай мовы ў жыцці краіны, ды і кожнага асобнага чалавека, нельга пераацаніць. Яно яшчэ вельмі недаацэнена. Пытанне гэтае патрабуе вывучэння, даследвання, асэнсавання, роздуму, разважанняў.

Адчуванне псіхалагічнага дыскамфорту ахоплівае чалавека ў сітуацыях, калі парушаны натуральны парадак рэчаў. Калі мы наведваем іншую краіну, то трапляем у чужое для нас моўнае асяроддзе і мусім альбо размаўляць на чужой мове, калі яе ведаем, альбо заставацца глуханямымі ў адваротным выпадку. Пры ўсёй нязручнасці для нас такой сітуацыі мы ўсведамляем яе натуральнасць і часовасць. Калі ж мы чуем пастаянна чужую мову ў сваёй уласнай хаце і нас увесь час упэўніваюць, што так і трэба , што менавіта на ёй мы павінны размаўляць, то гэта, прызнаем, не зусім натуральна. А натуральна паўстае пытанне: чаму?

Гадоў дзесяць таму, за савецкім часам, з гэтым было ўсё проста, хіба што дурню незразумела: ідзе зліццё моваў. Ідзе зліццё нацыяў у адзіны савецкі народ з адзінай савецкай мовай. Не атрымалася, зліццё адменена, усе вярнуліся "на круги своя". Ну, а як жа мы? Але і тут вам на пытанне: "Чаму?", - насыплюць адказаў, хоць цэлы мех:

1) бо так гістарычна склалася;

2) бо тут жыве шмат расейцаў, таму мы размаўляем на іхняй мове, каб яны нас зразумелі і каб іх не пакрыўдзіць;

3) бо на свеце ёсць толькі дзве вялікія і магутныя мовы, і было б неразумна карыстацца нейкай там сваёй, недастаткова вялікай і магутнай;

4) бо размаўляць на сваёй уласнай беларускай мове — гэта нацыяналізм, а мы ж — інтэрнацыялісты, таму павінны карыстацца мовай суседзяў;

5) бо нас адвучылі ад нашай уласнай мовы, і цяпер яе нельга навязваць;

6) бо карыстаючыся суседскай мовай мы павышаем свой культурны ўзровень;

7) бо размаўляць па-беларуску — гэта значыць вяртацца назад, у лапатна-сярмяжнае мінулае, да адсталасці і цемнаты;

8) бо наша мова недастаткова прыгожая, і мы яе не любім;

9) бо гаварыць па-беларуску — гэта дзівацтва, імкненне вылучыцца, карацей, ненармальнасць, паколькі норма тут — расейскамоўнасць (нагадаем да болю знаёмае:"Говорите на нормальном языке");

10) бо карыстанне роднай мовай у нас расцэньваецца, як апазіцыйнасць, рэвалюцыйнасць, радыкалізм, ледзь не экстрэмізм, карыстанне ж суседскай — сведчанне лаяльнасці да ўладаў і "сушчаствуюшчага" ладу...

Можна было б і далей доўжыць шэраг шызафрэнічных аргументаў, якія , аднак, выдатна праходзяць тут, у гэтай дзіўнай краіне, дзе ўсё перакручана, перакулена дагары нагамі, дзе нормай з'яўляецца тое, што ўсюды — парушэнне нормы, нонсэнс. Калі б мы здолелі зірнуць на сябе збоку, здаровым, цвярозым вокам, то заўважылі б, што існуем нібыта ў нейкім іншасвеце, непрывычным вымярэнні, па той бок люстэрка - ці то на белай пляме, ці то ў чорнай дзірцы. Там, дзе не спрацоўваюць звычайныя чалавечыя ўяўленні, прывычныя логіка і здаровы сэнс. І так ураслі ў гэты абсурд, так прывыклі хадзіць дагары нагамі, што любы, хто здолее перавярнуцца з галавы на ногі, адразу расцэньваецца як апазіцыянер, небяспечны парушальнік устоеў.

У краіне перавернутых уяўленняў (няхай нават узаконеных, упісаных у Канстытуцыю) грамадзяне ўсё-такі не могуць не адчуваць дыскамфорту. Бо, пагадзіцеся, хадзіць дагары нагамі ўсё ж нязручна, парушаецца крывазварот. Вось і ў адносінах да мовы не ўсё так проста. Хаця карыстанне расейскай мовай тут прынята і, нават, узаконена, але ж усе ведаюць, што існуе ў гэтым краі іншая мова, сапраўдная мова гэтай зямлі, як арганічная, прыродная з'ява, як неад'емная прыналежнасць гэтага народа, гэтай краіны. Мова, якая натуральна вырастае з гэтай мясцовай глебы, а не прыўнесенная аднекуль звонку. Яе немагчыма адмяніць ніякімі рэферэндумамі, бо яна ёсць. Больш таго, ёсць людзі, якія карыстаюцца ёю ў жыцці, любяць яе і шануюць. Яны паказваюць на ўласным прыкладзе, што на ёй можна цудоўна размаўляць і што яна выгадна адрозніваецца ад таго псеўдарасейскага сурагату, якім ува ўсёй яго разнастайнасці карыстаюцца шырокія пласты малаадукаванага насельніцтва, што яна не ператварылася яшчэ ў засушаную мову фальклёру ды хіба што мастацкай літаратуры, а можа паўнакроўна абслугоўваць усе сферы ўжытку.

Але ж, глядзіце, аднекуль павылазілі ўсё ж гэтыя беларусы! Недабітыя. І мову выцягнулі. Яны раздражняюць, перашкаджаюць, блытаюцца пад нагамі. Нібы штось хочуць давесці, нагадаць, прысароміць. Яны — нібыта хворае сумненне. Выцягваюць на паверхню жыцця глыбока закапаную праўду гэтай зямлі — яе сапраўдную мову. І праўда гэтая вочы коле. Паказвае ўвесь фальш навязаных ды ўжо прывычных уяўленняў. Не дае спакою...

Так, спакою сапраўды няма, але і добра, што няма. Яго не можа і не павінна быць, пакуль мова гэтай зямлі не зойме свайго законнага, належнага ёй месца, пакуль усё ў гэтай кроаіне не прыйдзе ў нармальны стан і не пачне жыць па законах прыроды, нормах людскасці і боскага ўстанаўлення. А да таго часу, пакуль гэта не адбудзецца, так і будзем існаваць у стане раздвоенасці, нявызначанасці і дыскамфорту, ненармальнасці і бесперспектыўнасці.

***Святлана Багданкевіч, г. Менск.***

# Замацуем жа мову нашу родную ўва ўсёй яе сутнасці беларускай. І — назаўжды!

*Мова родная, мова дзядоў!*
*Іншай мовы мы сэрцам не чуем.*
*Яе міласцю любых нам слоў,*
*Быццам музыкай душы чаруем.*
***(У адпаведнасці з Л.Геніюш)***

Думка пра такое замацаванне нарадзілася ў радзе клуба " Спадчына" і Менскай гарадской радзе Таварыства беларускай мовы. Яна нядаўна была тэзісна выкладзена старшынёй клуба Анатолем Белым і абмеркаваная з дзейсным удзелам творчай і навуковай грамадскаці. Там разгледзены таксама першыя варыянты прапановаў.

Нашая мэта заключаецца ў наступным:

— стварыць выразны, матэрыялізаваны па пабудове, але высокадухоўны па мэтах і зместу неўміручы мемарыяльны сімвал беларускай мовы.

— паказаць праз усе выразы гэтага сімвала фундаментальнасць і неўміручасць беларускай мовы, як Боскага стварэння, перад якім кожны з нас мае абавязак: заўжды захоўваць, аберагаць самастойнасць яе Душы, развіваць і ўздымаць важкасць.

Адпаведна клуб "Спадчына" і Менскае гарадское Таварыства беларускай мовы аб'яўляюць конкурс на тэкставыя і графічныя прапановы адносна выгляду і напаўнення зместам гэтага сімвала, матэрыялаў для яго будаўніцтва, а таксама на матэрыялізаваныя макеты, прапановы аб месцах устаноўкі: толькі Менск, ва ўсіх абласных цэнтрах краіны, у сталіцы і ўсіх знакамітых мясцінах беларускасці.

У конкурсе могуць удзельнічаць усе ахвотнікі, незалежна ад узросту, прафесіі і месца жыхарства. Асабліва мы спадзяёмся на нашую моладзь - нашую змену, якой самім Богам прызначана ратаванне і развіццё ўсіх спраў беларускасці.

Свае прапановы просім накіроўваць на адрас:

220037, Менск, вул. Уральская, дом 16, кв.9, Беламу Анатолю.

Змест прапановаў будзе перыядычна асвятляцца ў друку.

Тэрмін - да 25 красавіка 1998 года.

***Аляксей Саламонаў, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ, прафесар.***

# Агеньчык надзеі і цяпла

Такі лёс наканаваў сабе яшчэ ў тым далёкім 1912 годзе класік беларускай літаратуры - Янка Купала. Мужнасць гэтага чалавека, які паклаў на святы алтар Адраджэння Беларусі сваё жыццё, заслугоўвае найвышэйшай падзякі і ўдзячнасці. Бо не кожны чалавек, з талентам дадзеным ад нараджэння Богам, змог бы так распарадзіцца сваім лёсам. Купала ж поўнасцю аддаў сябе служэнню Бацькаўшчыне - ўсяму беларускаму народу. Паэт прайшоў разам з ім цяжкі шлях жыцця - ад прыгнечаннасці да трапяткога адчування свабоды, да ганаровага звання "людзьмі звацца", не патрабуючы ад нашчадкаў нічога акрамя разумення. І нашчадкі не толькі зразумелі свайго непераўзыдзенага знаўца народнага беларускага слова, але і палюбілі шчыра і аддана.

Не гледзячы на катаклізмы гісторыі, маладое пакаленне лічыць Янку Купалу сапраўдным сынам роднай Беларусі, чалавекам, які заслугоўвае нізкага паклону. Як бачна, час сам вынес прысуд, бо толькі ён можа даць сапраўдную цану працы чалавека.

І зараз нам адно трэба толькі дзякаваць Івана Дамінікавіча за яго плённую працу на ніве беларускай, за тую спадчыну, якую пакінуў сваім нашчадкам.

Удзень і ўначы гарыць святло ў вокнах дома-музея Янкі Купалы, сведчачы пра памяць нашчадкаў аб сваім Песняры, днём і ноччу працуюць супрацоўнікі музея, сапраўдныя энтузіясты, бо толькі яны могуць на адной веры ў лепшыя часы ды на шчырым захапленні творчасцю паэта, рабіць у наш цяжкі час такую тытанічную працу, але прыемную і высокародную. І, як вынік - у свет выходзяць кнігі, зборнікі, артыкулы, буклеты, прысвечаныя жыццю і творчасці нашага Песняра.



Святло Купалава Дому

*За лепшую долю роднага краю,*
*За сваіх брацціяў ў святой барацьбе-*
*Гэткай толькі смерці жадаю,*
*Памяткі гэткай чакаю сабе.*

Зусім нядаўна, у лютым гэтага года, пабачыў свет новы буклет музея " Святло Купалава Дому", які сведчыць пра тое, што рупліўцы-супрацоўнікі "не спяць у шапку". З выгляду сціплы, але багаты па зместу дый складзены ўдала і з густам.

Вячаслаў Рагойша, як прафесар, зрабіў выдатны навукова-літаратурны аналіз творчасці паэта, паказаўшы Янку Купалу ў першую чаргу, як літаратара, адначасова правёўшы гістарычныя паралелі і іх уплыў на Купалу, як асобу. А Антаніна Хатэнка паднесла нам нашага класіка, як простага чалавека, як Яся. Яе паэтычны падыход надаў артыкулу песенны, лірычна-ўзнёслы характар, які знаходзіць у душы чытача прыемнае задавальненне ды добрыя ўражанні ад прачытанага на доўгі час. А колькі фотаздымкаў... Толькі па адных іх можна прасачыць гістарычны лёс Купалы, зразумець настрой і душэўны стан Песняра ў розныя гады на працягу ўсяго яго жыцця.

Напаследак хацелася б выказаць словы ўдзячнасці тым людзям, якія дапамглі музею ў гэтай пачэснай працы - выданні буклета.

***Марцін Кухта, г.Менск.***

Крыўдна

# І на кладах вясковых мова паўсюдна расейская...

Праведаў нядаўна вёсачку Ліпнішкі, куды калісьці, за два з палавінай кіламетры. праз лес, хадзіў з сябрамі ў школку-пачаткоўку. Тады тут налічвалася дванаццаць двароў, у кожнай хаце было па трое-пяцёра дзяцей. Цяпер у вёсачцы пражывае ўсяго восем пенсіянераў, сярод іх і мой даўні сябра, настаўнік-пенсіянер, сустрэліся, абмяняліся навінамі, потым схадзілі на вясковыя могілкі, што за аселіцай. Там спачываюць ягоныя маці, брат, жонка, сябры дзяцінства, з якімі і ён і я сядзелі калісьці за школьнай партай. На надмагільных помніках надпісы спрэс выкананы на адной мове — расейскай, хоць, шчыра кажучы, у ліпнікоўцаў былі падставы аддаць даніну павагі беларускай мове. Ужо хоць бы таму, што ў іх вёсцы нарадзілася і адсюль пайшла ў вялікае жыццё вядомая беларуская пісьменніца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Алена Васілевіч, 75-гадовы юбілей якой надаўна адзначыла грамадскасць сталіцы. Яе аповесцю "Пачакай, затрымайся" гадоў трыдцаць таму зачытваліся ў вёсцы і стары, і малы, таму як героі кніжкі жылі побач, аўтар нават прозвішчаў іх не змяніла, кожны дарослы знайходзіў сябе. А ў галоўнай герaіні кніжкі дзяўчынцы Ганьцы пазнаваў самую пісьменніцу. Багатую, "сакаўную" мову аповесці яна ўвабрала ў дзяцінстве, пераняла ад сваіх блізкіх і родных, бо на ёй тады гаварыла ўся вёска.

Але чамусці калі даходзіла справа да ўзвядзення помніка на магіле памерлага ліпнікоўца, ягоныя гарадскія дзеці, унукі, нібы ўраз забывалі пра родную мову і пісалі эпітафіі на надмагільных каменях па—расейску. На тое былі, вядома, пэўныя прычыны. Да вайны не ўсякі мог адважыцца ставіць помнік з беларускамоўным надпісам — баяліся, каб мясцовыя актывісты не прышылі "нацдэмаўшчыну", бо ў 30-я гады дастаткова было чыста загаварыць па - беларуску дзе-небудзь у горадзе, каб на цябе глядзелі з падазрэннем і недаверам.

Загляніце сёння на ўзятыя, па выбару, вясковыя могілкі - і ўсюды з надпісамі на помніках той жа малюнак. Такі ж ён і на старых гарадскіх у Слуцку, і на новых, каля вёскі Селішча, за дзесяць кіламетраў ад горада. Толькі ў трох ці чатырох вёсках, дзе пражываюць беларусы каталіцкага веравызнання, можна убачыць помнікі з надпісамі... па-польску, хоць ніхто з палеглых пад імі мовы гэтай не ведаў, хіба якая-небудзь бабулька стагадовая. І тут родная мова нібы падчарыца.

Мы, мусіць, адзіная на зямлі нацыя, якая ўшаноўвае памяць памерлых не на сваёй мове. Не ўзышло яшчэ ў нізах духоўнае зерне нацыянальнага адраджэння, не зарунела, хоць у першыя гады перабудовы нейкія парасткі яго і прабіваліся ўжо. Ды нядоўга, як кажуць, музыка іграла.

... Але прарэзаўся ўжо праменьчык надзеі у гэтай звыклай "завядзёнцы", карані якой вядуць у гады поўнай страты Беларуссю саёй незалежнасці. Нядаўна сярод новых помнікаў на загарадных селішчанскіх могілках убачыў на магіле мужчыны бетонны, недарагі помнік з надпісам на беларускай мове. Адзіны сярод некалькіх тысяч! І хоць кажуць, што адна пастаўка вясны не робіць, з'явілася надзея, што магчыма і тут, на месцы вечнага спакою, пачнецца "абуджэнне" нацыянальнай самасвядомасці і ў дачыненні да памяці пра блізкіх і родных.

*Міхась Тычына, журналіст, ветэран вайны і працы. г. Слуцк*

# Водгук на пераклады вершаў Наталлі Арсенневай

У часопісе "Неман" № 1 1998 г. надрукаваны пераклады С.Яўсеевай вершаў Н. Арсенневай. Хацелася б вітаць намаганні часопіса данесці да расейскамоўнага чытача творчасць славутай паэткі. Асабліва цяпер, калі вершы Наталлі Арсенневай выключаны са школьнай праграмы. Але на мой погляд пераклады Яўсеевай падмянілі патрыятычную ўсхваляванасць Арсенневай лёсам Беларусі нейкай "славянскай праўдай".

Так у вершы "Магутны Божа" ("Малітва"), які спяваецца вернікамі на ўніяцкіх і каталіцкіх набажэнствах, гаворыцца: "Уладар сусветаў, вялікіх сонцаў і сэрц малых над Беларусяй ціхай і ветлай рассып праменні Свае хвалы". У перакладзе Яўсеевай гэта гучыць так: "Податель жизни, великий Боже к славянской правде будь милосерд..."

Мне падаецца, што праўда аднолькавая для ўсіх людзей сусвету, а асобная " славянская праўда" існуе хіба толькі для "Славянского сабора" — зграі фашыстоўскіх імперцаў і "Славянского набата" — газеты камароўскай чорнай сотні.

Скажэнне духу Арсенневай адчуваецца ва ўсіх надрукаваных перакладах. Гэтыя пераклады мы абмяркоўвалі ў менскім спаемстве, створаным лекарам Сяргеем Язерскім. Свае меркаванні спадар Язерскі выказаў рэдактарам часопіса "Неман". Рэдакцыя адказала, што ён адзін незадаволены. Мне падаецца, што незадаволенных будзе значна больш.

***Барыс Мускі.***

# Пад дзяржаўным сцягам БНР

***"...Цяпер мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасці, якая была накінута расейскім царызмам на наш вольны і незалежны край.***

***Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі, у асобе свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных сувязях Беларусі".***

Гэтыя словы былі сказаны 80 год таму назад Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў Менску 25 сакавіка 1918 года ў ейнай трэцяй грамаце пад назвай Акту 25 Сакавіка. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як законны суверэнны орган беларускага народа, словамі гэтымі абвесціла вольнасць і дзяржаўную незалежнасць Беларусі ды парвала ўсякія дзяржаўныя сувязі з Расеяй, часткай якой дагэтуль была Беларусь. Такім чынам на развалінах царскае Расеі, побач з многімі народамі, ёю паняволенымі, у гэты гістарычны 1918 год пастаў да вольнага незалежнага жыцця і беларускі народ.

Каб зразумець усю веліч Акту 25 Сакавіка ды прасачыць ягонае значэнне на тле гісторыі, трэба кінуці вокам, хоць у некалькіх словах на мінуўшчыну беларускага народа, на часы ягонага дзяржаўнага незалежнага жыцця, як і гады заняпаду і нявper.

На сённяшняй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі і некаторых сумежных з ёю тэрыторыях ужо ў IX-X стагоддзі нашае эры беларускі народ тварыў шэраг удзельных незалежных княстваў, пасярод якіх удзельныя княствы Крывіцкага племені Полацкае і Смаленскае ў XI-XII стагоддзях дасягалі высокага ўзроўню палітычнага і культурнага развіцця. У XIII стагоддзі ўвесь беларускі народ, падзелены на паасобныя ўдзельныя княствы задзіночваецца ў адзіным дзяржаўным арганізме — Вялікім Княстве Літоўскім, якое апрача ўсяе этнаграфічнае тэрыторыі Беларусі, як ягонай цэнтральнай і асноўнай часткі, уключае ў сабе тэрыторыю сучаснай Летувы і на працягу пэўнага часу і вялікую частку Украіны.

Тэндэнцыйныя гісторыкі суседніх нам народаў, прэтэндуючы на беларускія землі, стварылі фальшывую тэорыю, што беларускі народ увайходзіў у Вялікае Літоўскае Княства, як народ заваяваны і ягоная роля і ўдзельная вага ў гэтым Княстве была другарадная. У сапраўднасці ж у Вялікім Літоўскім Княстве якраз беларусы былі народам найбольш актыўным і дзяржаўнатворчым, служылі культурным узорам для іншых народаў Княства, а беларуская мова была ўзнесена на вышыню мовы дзяржаўнай і мовы культурных і асвечаных слаёў грамадства не толькі ў этнаграфічнай Беларусі, але і на небеларускіх тэрыторыях Княства. Такім чынам беларускі народ быў не аб'ектам у гэтай дзяржаве, а ейным суб'ектам і таму беларусы правільна ўважаюць гэтае Княства за сваю дзяржаву. Гэта была ў той час найвялікшая палітычная, мілітарная і культурная сіла на ўсходзе Еўропы. А беларуская культура дасягала ў "залатым" 16-м стагоддзі свайго зеніту. Прыкладам гэтага служыць факт, што ў 1517 годзе з'яўляецца ў беларусаў друкарства, запачаткаванае і далей развіванае доктарам Францішкам Скарынам з Полацка, калі ў Маскве першае друкаванне кніжак пачынаецца 65 год пазней, будучы туды завезеным Мсціслаўцам — беларусам, вучнем Скарыны.

У выніку палітычных вуніяў Вялікага Літоўскага Княства з Польшчай, асабліва пасля Люблінскай вуніі ў 1569 годзе, Беларусь увайходзіць у фэдэральную сувязь з польскім каралеўствам. У сэнсе абарончым гэтая вунія была з'явішчам пазітыўным у варунках частых войнаў з Маскоўшчынай на ўсходзе і нямецкім крыжацкім законам на захадзе. Затое з гледзішча палітычнага вунія сталася пачаткам заняпаду спярша беларускае культуры, пазней і заняпаду палітычнага. Хаця юрыдычна Вялікае Літоўскае Княства аж да 1793 году, зн. да другога раздзелу Польшчы, было незалежнай дзяржавай, задзіночанай фэдэральнымі сувязямі з Польшчай на правох раўнапраўнага партнёра, але ў галіне культурнай пачынаючы з канца 16-га стагоддзя пранікаючыя на Беларусь польскія ўплывы што раз болей і шырэй пачынаюць выціскаць элементы беларускія. У выніку гэтага ў 17-м, а яшчэ болей у 18-м стагоддзі, беларуская арыстакратыя, буйная шляхта і мяшчане, што тварылі дагэтуль шэрагі беларускай інтэлігенцыі і асвечаны пласт грамадства, паланізаваліся, пераймалі польскую культуру, мову, а за гэтым і свядомасць польскай нацыянальнай прыналежнасці. Асноўная ж маса беларускага народа — сялянства ды дробная шляхта не паддавалася паланізацыі, ды гэтыя сацыяльныя пласты не адыгрывалі тады ані значнай палітычнай, ані культурнай ролі.

Але найбольш цёмны і трагічны пэрыяд гісторыі беларускага народа пачынаецца пасля другога падзелу Польшчы ў 1793 годзе, калі амаль уся беларуская тэрыторыя была ўлучана ў склад Расейскай імперыі. Расейскі царскі ўрад пастанавіў цалкам зрусіфікаваць беларускі народ і адразу павёў сваю палітыку дасягнення гэтае свае мэты. Русіфікацыйны працэс Расея праводзіла двума галоўнымі спосабамі: спосабам урадавае і паліцыйнае забароны беларускага нацыянальнага жыцця ды прымусовай русіфікацыі - з аднаго боку, а таксама спосабам штучнага спынення культурнага развіцця народа і трымання яго ў стане адсталасці і цемры - з другога. Гэткім чынам ліквідуюцца на тэрыторыі Беларусі вышэйшыя навучальныя ўстановы: Віленскі ўніверсітэт і Полацкая акадэмія, завужаецца сетка сярэдняга школьніцтва. У 1839 годзе ліквідуецца царскім загадам беларуская нацыянальная грэка-каталіцкая царква, забараняецца ў святынях ужыванне беларускае мовы, а ў 1867 годзе наступае забарона друку ў беларускай мове, якая трывае, аж да 1905 году. Таксама штучна абніжаецца матэрыяльны ўзровень і сацыяльнае становішча беларускага сялянства шляхам узмацнення прыгону. Наш нацыянальны назоў эпохі ўдзельных княстваў — крывічы зусім выкрэсліваецца з расейскай тэрміналогіі ў дачыненні да беларускага народа. Наш пазнейшы нацыянальны назоў эпохі Вялікага Літоўскага Княства — ліцвіны таксама адбіраецца ад нашага норода і пераносіцца на невялікі народ, які дагэтуль ніколі ліцвінамі не называўся, называючы сябе жмудзінамі - жамойцямі. Расея ў мэтах хутчэйшай русіфікацыі беларускага народа і дзеля адарвання яго ад традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, накідае яму амаль няведамы дагэтуль назоў беларусаў.

Чаго не даканала польская культурная экспансія на Беларусі на працягу двух апошніх стагоддзяў існавання Вялікага Княства Літоўскага, тое зрабіла і завяршыла царская Расея. У выніку русіфікацыйнай палітыкі і палітыкі трымання народа ў культурнай адсталасці і цемры, наступае поўны палітычны, культурны і сацыяльна-эканамічны заняпад Беларусі. Народ траціць сваю нацыянальную свядомасць і становіцца пасіўнай этнаграфічнай масай, аб'ектам русіфікацыі з аднаго боку і далейшай паланізацыі з другога.

Такое становішча мела той трагічны для беларускага народа вынік, што, калі ў пачатку 19-га стагоддзя пачынаецца пад уплывам ідэяў рамантызму і Напалеонаўскіх паходаў нацыянальнае абуджэнне беларускага народа, дык традыцыя ягонай мінулай славы, магутнасці і культурных багаццяў эпохі росквіту Вялікага Княства Літоўскага была ўжо зусім парваная. Яна ўжо не магла аджыўляць сваімі сокамі нацыянальнага руху беларускага адраджэння. Усё цяпер трэба было тварыць ад самога пачатку. Новая беларуская культура пачынае развівацца не на беларускай культурнай спадчыне эпохі ўдзельных княстваў і эпохі Вялікага Літоўскага Княства, але на элементах фальклёрнай культуры беларускага сялянства. Беларуская літаратурная мова пачынае ў 19-м стагоддзі тварыцца не на базе беларускай літаратурнай і ўрадавай мовы Вялікага Княства Літоўскага, але на базе чыста народнай мовы беларускага цэнтральна-заходняга дыялекту.

Беларускае нацыянальнае адраджэнне спачатку выключна культурны аспект, як адраджэнне літаратуры, культуры і перадусім мовы. І толькі пазней побач з момантамі культурнымі, даходзіць да гэтага і аспект палітычны. Беларускі паэт другой паловы 19-га стагоддзя Францішак Багушэвіч, названы бацькам беларускага нацыянальнага адраджэння, кідае лозунг: "Беларусы, не цурайцеся мовы нашае беларускае, каб не ўмерлі ". Правадыр беларускага паўстання 1863 года, прызнаны потым беларускім нацыянальным героем, Кастусь Каліноўскі, будучы асуджаным царскім урадам на смерць, з турмы перасылае беларускаму народу свой палітычны тастамант: "***Толькі тады беларускі народзе, зажывеш шчасліва, калі ўжо болей Маскаля над табою не будзе".***

Беларускае нацыянальнае адраджэнне, паклаўшы ў аснову два гэтыя лозунгі, выліваецца ў масавы нацыянальна-адраджэнцкі рух толькі пасля рэвалюцыі 1905 года, калі была скасаваная забарона беларукага друку і паступілі некаторыя палітычныя палёгкі для беларусаў. Беларускі адраджэнцкі рух, канцэнтруючыся і цяпер галоўна ў галіне культурнай, пачынае ўжо ставіць перад сабой і палітычныя мэты. Але да першай сусветнай вайны канцэпцыя поўнай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі яшчэ праяўляецца слаба. Сярод беларусаў дамінавалі яшчэ або канцэпцыі аўтанамічныя, або фэдэралістычныя ў складзе Расейскай імперыі. Толькі бурлівыя падзеі выкліканыя сусветнай вайной і лютаўскай рэвалюцыяй у Расеі ў 1917 г. прысьпяшылі наспяванне і ў беларусаў ідэі поўнай дзяржаўнай незалежнасці, што і выразілася ў пастановах Першага Усебеларускага Кангрэсу ў 1917 годзе ды завяршылася ў векапомным Акце 25 Сакавіка 1918 года, 80-я ўгодкі якога адзначаем мы сёлета.

Гэты вельмі кароткі і фрагматычны агляд пройдзеных беларускім народам этапаў гісторыі ўскрывае перад намі два важныя моманты. Першае, што спасярод народаў, якія ў сілу гістарычных выпадкаў страцілі незалежнасць, беларускі народ апынуўся бадай што ў найгоршым, здавалася б бязвыхадным становішчы. З народу дзяржаўна творчага і культурна развітага ён скаціўся да ролі пасіўнае этнаграфічнае масы. Ягоная поўная нацыянальная смерць здавалася немінучай.

З другога ж боку гэты народ, калі і для яго засвяціла заранка адраджэння, за кароткі час выявіў столькі жыццёвых сілаў, творчых здольнасцяў, духовага гарту і прагрэсу, што ў перыяд развалу царскае Расейскае імперыі ў 1917 годзе, разам з іншымі болей шчаслівымі і прыгатаванымі народамі гэтае імпэрыі, горда ўзняўся на шлях самастойнага дзяржаўнага жацця. Ён абвясціў сваю дзяржаўную незалежнасць, на кароткі час стварыў сваю дзяржаўнасць, за яе змагаўся і змагаецца да апошняга часу за яе аднаўленне.

Панарамны агляд гістарычных варункаў ад канца 1917 года і пазнейшых падводзіць да высновы, што:

1. Акт 25 Сакавіка 1918 года, якім абвяшчалася аб разрыве дзяржаўных сувязяў з Расеяй і праклямавалася дзяржаўная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі быў выражэннем вольнае волі беларускага народа, быў юрыдычным актам. Вялікая Беларуская Рада, якая задзіночвала тады ўсе беларускія нацыянальныя арганізацыі і партыі, пастанавіла склікаць у Менску ў снежні 1917 года Першы Усебеларускі Кангрэс, зложаны з выбраных дэмакратычным спосабам дэлегатаў беларускага народа з усіх этнаграфічных тэрыторыяў Беларусі. Мэтаю Кангрэсу было вырашэнне ў той бурлівы час далейшага лёсу беларускага народа і ягонай дзяржаўнай будучыні. На Кангрэс, які распачаўся ў Менску 18 снежня 1917 году, з'ехалася з усяе Беларусі 1872 дэлегаты, з якіх 1167, што былі выбраны насельніцтвам, мелі права пастаноўчага голасу, а астатнія 703, што выбарных мандатаў не мелі, карысталася дарадчым голасам. У сваёй рэзалюцыі Кангрэс выказаўся за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Але ў адказ на гэта бальшавікі, якія ўжо тады кантралявалі Беларусь, 30 снежня разагналі Кангрэс фізічнай збройнай сілай. Але назаўтра 31 снежня Кангрэс сабраўся ў поўным сваім складзе ў іншым мейсцы, дзе перадаў свае паўнамоцтвы аж да часу магчымых вольных выбараў у Беларусі, абранай раней, сваёй Радзе. Гэтая Рада Кангрэсу, пераіменаваўшыся потым у Раду Беларускае Народнае Рэспублікі ды апіраючыся на, дадзеныя ёй Кангрэсам, неабмежаваныя паўнамоцтвы, 25 сакавіка 1918 года абвясціла Беларусь вольнай незалежнай дэмакратычнай рэспублікай і заявіла аб разрыве ўсякіх дзяржаўных сувязяў з Расеяй.

Хутка пасля гэтага шэсць еўрапейскіх дзяржаваў прызналі сувярэннасць Беларусі "дэ юрэ": Украіна, тры Балтыйскія дзяржавы, Фінляндыя і Грузія, Чэхаславаччына, Турэччына, Аўстрыя і Нямеччына (пасля дэтранізацыі кайзера Вільгельма) прызналі БНР "Дэ факта".

2. З першых дзён арганізацыі мясцовых органаў БНР беларускі народ ахвотна ім падпарадкоўваўся, уключыўся ў актыўнае з імі супрацоўніцтва і, што найважней, масава выступіў на збройнае змаганне ў абарону Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі бальшавіцкая армія акупавала Беларусь, на ўсёй беларускай тэрыторыі пачалі ўспыхваць антыбальшавіцкія народныя паўстанні. Некаторыя з іх насілі стыхійны характар без ясна абазначанай мэты, але многія, як прыкладам найвялікшае і найслаўнейшае з іх Слуцкае паўстанне канца 1920 года, вяліся арганізавана пад сцягам Беларускае дзяржаўнасці і ставілі сабе за мэту ўстанаўленне і абарону БНР. Галоўнай прычынай таго, што не ўдалося замацаваць і абараніць беларускай дзяржаўнасці, была не адсутнасць падтрымкі беларускіх народных масаў, але поўная адсутнасць падтрымкі з боку заходніх дзяржаваў.

3. Ідэя беларускай дзяржаўнай незалежнасці сталася ад 1918 года ідэйнай асновай усяго беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. У БССР, створанай бальшавікамі, увесь апазіцыйны да савецкага рэжыму беларускі нацыянальны рух аж да ягонае крывавае ліквідацыі ў 1930 і наступных гадах, ставіў канчатковай мэтай ліквідацыю савецкага ладу і адбудову незалежнасці Беларусі, што пацвярджалі і самі бальшавікі.

Пад дзяржаўніцкім сцягам БНР развівалася ўвесь час беларуская нацыянальная акцыя і ў Заходняй Беларусі, якая да 1939 года знаходзілася пад Польшчай. Ані тады, ані сёння на эміграцыі нельга нават уявіць той ці іншай беларускай арганізацыі або партыі, нельга сабе уявіць тэй ці іншай саліднейшай беларускай акцыі, у аснову якіх не былі б пакладзены ідэі дзяржаўнай незалежнасці.

Ідэя дзяржаўнай незалежнасці Беларусі сталася арганічнай часткай душы беларускага народа, ягонай рухальнай сілай, ягоным натхненнем і ягонай канчатковай мэтай.

У гэтым ляжыць найбольшая зарука, што ідэя беларускай дзяржаўнай незалежнасці, як і кожная вялікая і жывая ідэя, раней ці пазней затрыумфуе над, сілаю накіданымі беларускаму народу, фальшывымі ідэямі і станецца дакананым фактам.

***Язэп Каранеўскі,1955 г.***



Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі. Злева направа: сядзяць – А. Бурбіс, Я. Серада, Я. Варонка, В. Захарка; стаяць – А. Смоліч, П. Крачэўскі, К. Езавітаў, А. Аўсянік, Л. Заяц. Менск, 1918 г.

***Весткі эміграцыі***

# "Мемуары" Я.Пятроўскага - люстэрка эпохі

Завяршаецца XX-е стагоддзе. Ужо набліжаецца той час, калі ўсе народы свету пачнуць падсумоўваць здабыткі і цяжкі досвед мінулага, калі будзе створана інтэлектуальная скарбонка чалавецтва, з якой будучыя пакаленні пойдуць у новае тысячагоддзе. Адныя народы папоўняць скарб цывілізацыі найсучаснейшымі тэхналагічнымі распрацоўкамі, небывалым ростам дабрабыту, незвычайнымі навуковымі далягладамі. Іншыя ж, нажаль, ідэалагічнымі хімерамі, накшталт, "славянскай інтэграцыі" ці " рынкавага сацыялізму"...

Але якія б не былі цяжкія сацыяльныя ці нацыянальныя варункі ў той ці іншай краіне, інтэлектуалы маюць магчымасць зрабіць каб гэтая скарбонка досведу XX-га стагоддзя была больш поўнай і разнастайнай. Для Беларусі гэта, таксама, актуальна. І таму яе патрыёты, дзе б яны не жылі, пачынаюць па крупінках падсумоўваць свой досвед змагання за Бацькаўшчыну. Каб у XX-м стагоддзі ва ўвесь рост адрадзіць Беларускую Мару - сваю дзяржаву, культуру, мову, сімволіку.

Заўважным укладам у скарбонку Беларушчыны канца XX-га стагоддзя сталі "Мемуары" Яна Пятроўскага, выданне якіх не так даўно завяршылася ў Беларускім харытатыўна- адукацыйным фондзе, што ў ЗША. Гэты салідны па памерах трохтомнік мае падзагаловак "Стагоддзе ў рэтраспектыве" і ахоплівае перыяд ад пачатку века да спраў беларускай эміграцыі нашых дзён. На старонках "Мемуараў" чытач знойдзе і шчымлівы расповед пра дзяцінства і сям'ю Янкі, пра тагачасны Слуцк - родны горад юнака, пра жыхароў гэтага слыннага месца.

На іншых старонках гэтай сапраўды захапляльнай аповесці сучаснік даведаецца аб нялёгкіх пуцявінах лёсу беларускага хлопца, пра станаўленне стрыжня яго характару - хрысціянскага светапогляду і нацыянальнай свядомасці. А далей - даведаемся і пра вучобу на Матуральных курсах у Вільні, тэалагічнай школе ў Кларысаве (Польшча), і пра дзейнасць Я.Пятроўскага, як пастара метадычнай царквы ў Варшаве і ў Дзярэчыне...

Сваеасаблівай кульмінацыяй "Мемуараў" сталі ўспаміны аўтара пра трагічныя гады Другой сусветнай вайны і лёс ў яе полымі мільёнаў людзей, сярод якіх быў патрыёт Айчыны, святар-беларус Ян Пятроўскі. Потым - успаміны пра бежанскае жыццё ў Аўстрыі, эміграцыя ў ЗША, праца ў рамках метадычнай царквы...

З "Мемуараў" выцякае тое, што адным з напрамкаў грамадскай дзейнасці Я.Пятроўскага ў ЗША стала арганізацыя працы Беларускага харытатыўна- адукацыйнага цэнтра (г.Гэйнэсвіл, штат Флорыда). Дзейсную дапамогу ў гэтай справе аказала і жонка Я.Пятроўскага - спадарыня Аліцыя. На рахунку Фонда шмат добрых спраў, асабліва ў галіне беларускай гуманістыкі, элліністыкі і выдавецкай справе. Як сцвярджае энцыклапедычны даведнік "Беларуская мова" за гады існавання Фонду для беларускага чытача, як на эміграцыі, так і на Радзіме па-беларуску выдадзена восем тамоў "Выбраных дыялогаў" Платона, двухтомны "Клясычны грэцка-беларускі слоўнік", працы "Старажытная грэцкая класіка", "Лепшыя думкі чалавека", была ўпершыню па-беларуску выдадзена "Універсальная дэкларацыя правоў чалавека", часопіс фонду "Анаграфы"...

І вось завершана выданне панарамы беларускага жыцця цягам ў цэлае стагоддзе! "Мемуары" Я.Пятроўскага - гэта споведзь чалавека, равесніка XX-га стагоддзя, якому выпала стаць сведкам і ўдзельнікам шматлікіх падзей найноўшай Беларускай Гісторыі.

Для беларусаў жа на Радзіме "Мемуары" - дакумент цэлай эпохі, сведчанне нязгаснай любові да Бацькаўшчыны, прыклад для тых, хто ўваходзіць у новы век з верай і надзеяй у дэмакратычную Беларусь XXI-га стагоддзя.

Ну а для тых, хто цікавіцца "Мемуарамі" Я.Пятроўскага паведамляем, што асобнікі кнігі ёсць і ў Нацыянальнай бібліятэцы, і ў іншых буйных кнігасховішчах Беларусі, куды Я.Пятроўскі дасылае іх за свой кошт.

***Анатоль Мяльгуй , Беларусь, Менск***

# Радагосце



4

Учытваюся ў яе тайнапіс, нашае замоўчанае, схаванае гісторыі. Дальбог жа, нездарма беларусы займаюць першае месца ў Еўропе па колькасці схаваных скарбаў. Мы ж — казачная краіна, куфэрак на дне сусветнага мора, якую разгойдваюць хвалі то на ўсход, то на захад. І куфэрак той шчыльна зачынены каваным вечкам, пад якім самосціцца спалоханы заяц, а ў зайцы тым жыве качка, а ў качцы той яйка, а ў яйку Кашчэева смерць... А ў Кашчэевай жа смерці — абуджэнне, уваскрошанне ісціны-святла. Знайшоў бы толькі хто відушчы ключ да маўклівае скрыні-Краіны. І тады ... Тады адкрыліся б каштоўныя скарбы, не толькі ў войнынашэсці пахаваныя, адкрылася б нашая спрадвечная сонечная дарога. І прасвятлела б, засвяцілася б дно нашае жыццёвае вешчае ракі Дзвіны, як даносіць пра тое старое паданне: дно залотое, а берагі срэбным акаёмам. І ператварылася б у заможнасць нашая няўтомная працалюбнасць. Бо гэтак і было некалі, пакуль не разламалі на акрайцы нашую народную душу. Пакуль не запоўнілі чужой ведай прагалы нашае духовае прасторы, прасечаныя набегамінашэсцямі ворагаў ды падманных зычліўцаў. Пакуль не зжыліся мы з міфам пра сваю рускасць, запалоненную нахабнай Літвой. А вазьмі пакліч вас іншым іменем, чужым, не прыжытым, не прырослым да сэрца, сябе перастанеце пазнаваць, сярод людства зблудзіце. Гэтак і мы, цэлы народ, блукаем пад нянаскім найменнем у стагоддзях. А між тым нікуды не згінула духоўная энергія прапродкаў-крывічаў і старажытнай Літвы - святою нерушшу плыве над намі, вакол нас. Не расчыняем душаў сваіх, не ўпускаем у знямелыя храмы голас Божае падтрымкі, застылы крывіцкаю крывёю ў чыстых літаннях. Чуеце: крывы - асвечаны крывёю, святы (крывыя перадкалядныя і перадвелікодныя, адкрытыя ў Космас вечары, крывая рака Вілія, крывы горад Вільня), а над імі - стараладная Літва (літаніямалітва, ліццё жывое вады жыцця)? І там, у нетрах гэтае прабожае святасці варушацца яшчэ нашыя карані, адкуль падае літасціва руку наш збаўца - род. Толькі б не адпрэчыць зноў, не адмахнуцца абыякава! Толькі б злавіць гэты тонкі прамень святла,што бруіць спрадоння, з памятлівае ракі гісторыі. Толькі б утрымацца на хісткай кладцы між дзядамі і адначаснікамі, на кладцы паяднання! І тады адбеліцца пад сонцам нашае жывое памяці суровае палатно гісторыі, а на белым, праўдзівым, не ўзнікнуць белыя плямысхованкі. А белае аброчнае, абярожнае палатно агорне род над чорнаю дзірою бяспомнасці. І вернецца нашая старавечная вера ды моцвалотасць. Згадаць бы толькі: на гэтай зямлі, па якой мы таропка крочым штодзень, на зямлі нашае Радзімы людзі жывуць ужо 40 (!) тысячаў гадоў. І ўсе яны ішлі паперадзе нас, думалі, дзеялі, кахалі - давалі нам спадзеву з'явіцца сюды аднойчы і сваімі лёсамі выпрасці з кудзелі вечнасці валакно роду, даць яму віцца ў будучыні. Падумаць толькі: некалі мая Краіна-маці была тундрай, а на поўначы халадзеў у неба вечны лёд, які ўсё ж здаўся прыроднаму ўладарнаму рытму - папоўз, пакідаючы блакітныя шкельцы азёраў. Каб мы зазірнулі праз гэтыя шкельцы ў глыб свае гісторыі. Каб убачылі свой адбітак у калыханні часу, несмяротнага часу, які заўсёды ёсць, заўсёды пульсуе-тахкае ва ўсяленскім целе. Мы, людзі, сыходзім, саступаючы месца наступнікам, а чуйны час застаецца, дыхае, коціцца знікуль у нікуды, валодаючы сакрэтам вечнасці. І час нам, недарэкам, падказвае: трэба ўгледзецца ў сляды - яны не безгалосыя. Трэба ўслухацца ў рэха. Але сляды адкрываюцца празорцу, а рэха адгукаецца таму, хто мае голас...

5

І вось я кратаю тастамант вякоў. Уваходжу ў кнігу Ул.Арлова, як у прадаўнюю абарончую вежу, баючыся, што мяне не прымуць, не прызнаюць...

І вось я стаю перад светам - адна, безабаронная, таму што яшчэ не знайшла ахоўнае плашчаніцы гісторыі. Я стаю на скрыжаванні дарогаў. За мной зайшло сонца, і я магу вярнуцца ў цемру - там холадна, няўтульна, але ціха, там не трэба нічога вырашаць і ні за што адказваць, там змірэнча можна прыняць любое найменне і любы лёс, бо там няма мяне, ёсць толькі мой кволы цень, як месяцовае святло - ад сонца. Ды ноч усё роўна некалі сыдзе - я гэта ўжо ведаю. Тады я расплюшчваю вочы і выбіраю пуціну: хачу знайсці ключ да Кашчэевай смерці, да майго жыцця - да жыцця майго любага Краю. Цяпер мне відныя сляды. І я пытаюся: адкуль наш род. Цяпер я набываю голас і намагаюся паслаць яго ўдалеч, каб учуць рэха, адчуць лучнасць вякоў. Цяпер я гатовая прыняць выпрабаванне па законе прадзедаў: пераплыць хуткую глыбокую раку, упаляваць добрую здабычу, распаліць пад залеваю вогнішча і назваць свой радавод - да пятага калена. Аўтар кнігі вытлумачвае мне: гэтак навучалі мужнасці мужчынаў, гэтак засцерагалі племя ад здрадніцтва - выпрабаваны не адважыцца запрадаць душу ворагу, яго ўтрымае родавая повязь... Але цяпер... Цяпер я пераплываю раку ўяўную - раку памяці. Каб дакрануцца да спадчыны і акрыяць. Каб раздзьмухаць ўнутры сябе вагонь любові, вагонь аддананасці. Цяпер мая найвялікшая здабыча - веданне. Веданне таго, што назапашвалі мне ў дар тысячы не знаных мною папярэднікаў, знітаваных у бясконцую чараду пакаленняў. Цяпер я адчуваю сябе археолагам, які натрапляе ў раскопах на посведкі колішняе мудрасці, колішняга ўмельства ў Айчыне. І дазнаюся



Рагвалод і Рагнеда. Перад дарогай у тысячу гадоў.

- багацею: 25 тысяч гадоў назад тут, у маім Краі, былі дзве стаянкі (а, можа, болей, ды мы яшчэ не знайшлі пазнакаў). У буданах, складзеных з жэрдкаў і мамантавых касцей, абцягнутых шкурамі, туліліся насельнікі гэтае стараны, на якую суджана было прыйсці цяпер мне, прыйсці, каб уведаць пра іх, ніяк не названых мною, але злучаных са мной подыхам прасторы і ўсходамі зямлі. Прыйсці ўслед за эпохамі, якія змясцілі ў сабе перасяленне народаў, зрастанне балцкай і славянскай культураў на крыўскай ніве, узнясенне ў вялікі свет першае прапрашчуравай дзяржавы Полацкай, трагедыю Рагвалодавай сям'і і прасвятленне Еўфрасінні, узлёт Усяслава Чарадзея і злад Вялікага княства Літоўскага. Прыйсці кроплінай чырвонае ракі жыцця, што працінае белае поле памяці - поле продкаў і нашчадкаў. Прыйсці, каб каўтануць Ведаў ад Гусоўскага, Скарыны у княжным палацы асветы і прабіцца праз палоны і захопы, напады і штурмы, адлучэнні і з'яднанні на белым кані Адраджэння да праўды. Прыйсці, каб замуравацца разам з дзядамі і бацькамі, забыўлівымі ахвярамі адцурання, у векавое маўчанне, што адрынула ад пасаду і мову , і дух, і памяць. Прыйсці, каб здзівіцца, пазнаючы сябе і сваю не адкрытую ў бязмежнасці Краіну, пра якую спрадаўна ходзяць чуткі красныя: удзень і ўночы зорамі асвечаная, удзень і ўночы вока ў людзей пасярод ілба гарыць...

А, можа і праўда: вока трэцяе, відушчае, вока духавае бачыць пранікліва і дараджвае нам, як рушыць ад скрыжаляў на бальшак уваскрошання?... Можа, нашае адчужэнне-замураванне сталася ўрэшце ўрокам гісторыі, урокам-іспытам на здатнасць быць пераемнікамі былое славы і велічы, майстэрства ды мыслярства ойчае зямлі. Адасобіўся ж некалі ад буднечы за мурам вежы думца Кірыла Тураўскі, вітаючыся толькі з сонцам праз глядзень; каб спазнаць сябе і сваю прызначанасць у кароткім адмежку людскога жыцця на планеце. Можа й мы паглыбеем, памудрэем ды выснуем свой шлях з прамення прамінулых стагоддзяў, што вулушчылі з усіх бойкаў-сутычкаў, з усіх абарончых пагоняў гэткую простую ісціну: гісторыя - гэта хада насустрач, не на ростань, не на розмін у плыннасці часу. Гісторыя — гэта паўстанне "за нашу і вашу волю", якое і дагэтуль вяршыць Кастусь Каліноўскі, за волю чалавека ведаць праўду пра сябе, пра свой пачатак і род, каб прадчуць працяг. Гісторыя - гэта спатканне з Бацькаўшчынай, якое, як і ўсялякае палюбоўнае спатканне, спраўджваецца, калі вочы ў вочы, сэрца ў сэрца, мыслі ў мыслі. Шкада, што балюча, недаравальна-запознена датупваем мы да гэтага шчаслівага спаткання, спазнаючы гаркоту Купалавых пошукаў: "знойдзеш Бацькаўшчыну блізка". Блізка - блізка , здаецца, тысячагоддзі ўшчыльніліся ў адзін дзень апынулася ўсё, што было-рабілася задоўга да мяне, і стала маім, неадрыўным, непадзельным. Блізка-блізка падвёў да нашага веку пісьменнік, гісторык, даследчык Уладзімір Арлоў сваім незвычайным экскурсам пад пытальным знакам "Адкуль наш род". Падвёў , быццам ўскараскаўся з намі, няведамі, па коўзкай лесвіцы супярэчнасцяў і нязгодаў. І прыпыніў, калі мы набралі дыхання для новага поступу. Нібыта паставіў тварам да Кастуся Каліноўскага і змусіў глядзець, не міргаючы, не хаваючы позірку: што далей, хто мы, дзе наш гонар, дзе адказнасць перад ім, паўстанцам-воем, узнятым на вісельню - пытальнік...

Шукайма адказ. Пасля Кастуся прыйдуць Купала, Багдановіч, Цётка - тыя, каго параніць гаркотай-адчаем паланэз "Развітанне з Бацькаўшчынай", як і нас. Параніць і пакліча на спатканне. На новае спатканне з родам.

На спатканне з дарогай, якая ўрэшце павінна некалі прывесці да ўмацаванага замка веры: тут наш род, з намі і нашчадкамі.

***Антаніна Хатэнка.***

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Званы стол: банкет і бяседа. Вадзіць банкеты і вадзіць бяседы.

На Беларусі быў такі звычай. Пасля вяселля (у той жа дзень ці любы час пазней) усе госці запрашаліся родным дзядзькам, цёткай, суседзямі, прыяцелямі да сябе на ***бяседу*** з пачастункам (на баль). Такі званы пачастунак, як працяг вяселля, праходзіў па чарзе ў той дзень, на другі дзень і на трэці. Спраўлялі бяседу і праз нейкі час. Звалі гасцей з некалькіх вяселляў, дзе былі самі, як госці. На Слаўгарадчыне і ў Пасожжы навогул гэта паслявясельная бяседа з пачастункамі называлася ***банкет***, а старымі — ***банкеты***, а таксама казалі: ***гулялі банкет, была на банкеце, справілі банкеты, вадзіць банкеты. "Послі Нінкіныя свадзьбы, як прайшло вяселля здзелылі банкеты"***. У в.Усохі (па-мясцоваму Усох) Кругавіцкага с/с былога Церахоўскага (цяпер Добрушскага) раёна Гомельскай вобласці,як сведчыць архіўны запіс дыялекталагічнай экспедыцыі па "Дыялекталагічнаму атласу беларускай мовы" (1963) у 1959 годзе, што "***калі свадзьбу згуляюць і бяседы водзяць адзін і к другому ходзяць, ета завецца бяседы***" *(нас.п.942)*.

Геаграфіі назваў гэтага звычаю пакуль няма. У в.Азярычы Смалявіцкага раёна, напрыклад, гэты паслявясельны пачастунак называецца ***"даваць чэсці"***, (паведаміла м.н.с. аддзела дылекталогіі і лінгвагеаграфіі В.Дзм.Астрэйка). На Слаўгарадчыне таксама ўжываецца назва званага стала ***чэсць*** (агульная назва ўсіх баляванняў): ***была на чэсці, былі на часці, зуўсігда зваліся яны к яму на чэсць і на свячу звалі, йіхныя чэсць чэсцю была*** *(вельмі добры баль)*.

Слоўнікі расейскай мовы слова ***банкет*** лічаць запазычаным з французкай мовы ***bangnet*** (Словарь современного русского литературного языка. Том 1.А.Б. Издание второе, перaботанное и дaполненное. М., "Русский язык", 1991. С.328), а ў беларускай лічыцца запазычанным з італьянскай ***banehett***(А.М.Булыка. Слоўнік іншамоўных слоў. Мінск, "Народная асвета", 1993.С.48.) . У старабеларускай мове слова ***банкет, банкэт*** фіксуецца ўжо у помніках у пачатку XVII ст. (Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып. 1.Мінск, "Навука і тэхніка",1982,С.189) . У XVI ст. на Украіне сустракаецца форма мн.ліку ***банкеты.*** (Этымологічний словник украінськоі мови. Том перший А—Г. Киів, 1982,С.167).

Мясцовае слова ***бяседы*** вельмі трапна, як тэрмін, выражае значэнне "званы стол, банкет,баль" у вясельнай оперы. Відаць, ***вадзіць банкеты*** ўтворана па старой мясцовай мадэлі ад ***вадзіць бяседы***. Неабходна больш дэталёва вывучыць геаграфію гэтых словаў, іх сінаніміку і семантыку.

***Іван Яшкін***

# Сігнет

Сігнет — пярсцёнак з пячаткаю, які насілі прадстаўнікі беларускай шляхты, магнатаў і вышэйшага духавенства. Гербавы сігнет (часта залаты альбо срэбны) насіў кожны шляхціц на ўказальным пальцы правай рукі. Такі пярсцёнак з'яўляецца своеасаблівым пасведчаннем асобы. Каралі і багатыя магнаты заказвалі сабе пярсцёнкі са сваімі партрэтамі.

Сігнеты разам з пярсцёнкамі згадваюцца ў старажытных інвентарах і актах.

Лінгвістычна слова ***сігнет*** зыходзіць да латыні. ***Signatura*** *(лац)* - ***абазначаць, паказваць***. Асноўнае прызначэнне сігнета - не ўпрыгожванне, а перадача інфармацыі, паказ адпаведнага знака. Да гэтага ж гнязда словаў належаць і добра вядомае нам слова ***сігнал*** (***signalis*** *лац*.), што даслоўна абазначае, "*які падае знак*". А ўсё гэтае гняздо словаў у сваю чаргу сыходзіць да санкрыцкага ***Sahva*** - "*які называе па імені*". Так, сігнет нёс інфармацыю пра імя ўладальніка, пра яго пасаду, пра правы і паўнамоцтвы.



Слова ж ***пярсцёнак***, як і ***напарстак***, паходзіць ад слова *перст* - ***палец*** на царкоўна-балгарскай мове. Першаасноwa ж яго хаваецца ў глыбінях часу. У санскрыце ***prsti — рабрына.*** Пальцы нечым нагадваюць рэбры. Ці рэбры нагадваюць пальцы. Безумоўна, гэтыя словы з аднаго старажытнага гнязда, але "вылецелі" адтуль вельмі даўно і ў розных кірунках.

***Алег Трусаў, кандыдат гіст.навук.***
***Станіслаў Суднік***

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:* Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 9. 03. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 776.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.